# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№15 (1207) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 15 КРАСАВІКА 1979 г. ЦАНА 1 зл.






*Марыя Іванюк з Яцэвічаў, што каля Плюцічаў, заняла першае месца.*



*Сцепаніда Паплаўская з Плюцічаў заняла другое месца.*



*Еўдакія Баўтручук з Плюцічаў атрымала ўзнагароду заахвочвання.*

Тут, бачыце, і ружа, і лілейка, і гваздзічка, і румяночак, і астра — усяго і не пералічыць. Цэлы агародчык я сюды ўвіла, от што! — **Сцепаніда Паплаўская** пяшчотна папраўляе на папяровых кветках у сваім пышным букеце то пялёстачак, то лісцік. Яна выразна ўсхвалявана, хоць у **Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы** прыехала са сваіх родных Плюцічаў, што каля Страблі на Бельшчыне, не першы раз. Яна тут, можна сказаць, свой чалавек: яе дасканалае веданне штодзённага побыту беларускіх сялян Беласточчыны, прыроджанае тонкае адчуванне прыгожага і надзвычайная тактоўнасць і сардэчнасць да людзей добра знаёмы працаўнікам музея. Гэта ж С. Паплаўская па просьбе замілаванага ў народным мастацтве Беласточчыны этнографа **Тамаша Чарвінскага** ў мінулым годзе размясціла ўсё абсталяванне ў **беларускай хатцы,** што стаіць у скансене каля музея. Напрацавалася! Розных рэчаў з жыцця селяніна-беларуса захавальнік музея Т. Чарвінскі сабраў мноства, у тры разы павялічыў ён тое, што паступіла ў цеханоўскі музей з былога Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Яна ж абсталявала ўсё так, як калісьці сапраўды было ў хаце. **Беларускую хатку ў Цеханоўцы за мінулы сезон наведала звыш 25 тысяч чалавек.** Сёння з С. Паплаўскай прыехала ў Цехановец цэлая грамадка яе суседак і знаёмых — народных мастачак. Падарожжа не блізкае і не лёгкае, асабліва для тых, каму, як С. Паплаўскай, ужо пайшоў восьмы дзесятак гадоў жыцця. Але і прычына паездкі была важная: у тую суботу, 24 сакавіка, наступіла аб'яўленне вынікаў конкурсу, у якім яны прымалі ўдзел.




Конкурс **„Народныя аздобы ўнутры хатаў на Падляшшы"** быў аб'яўлены ў пачатку снежня мінулага года аддзелам культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення ў Ломжы і Музеем сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы.

— Такі конкурс мы праводзім упершыню, хоць раней былі ў нас конкурсы па дзвюхасноавай тканіне і іншых народных вырабах, — інфармуе дырэктар музея **Казімеж Ушынскі.** — Цяпер паставілі мы заданне выявіць колішнія народныя традыцыі ўпрыгожвання жылых памяшканняў, устанавіць, у якой ступені яны яшчэ захаваліся да нашага часу, а таксама папулярызаваць іх, заахвоціць народных тварцоў узнаўляць і развіваць гэтае каштоўнае мастацтва. Задума конкурсу ўзнікла ў выніку супрацоўніцтва кафедры этнаграфіі Варшаўскага універсітэта з нашым музеем. Навуковыя працаўнікі і студэнты кафедры здаўна праводзяць спецыяльныя навуковыя экспедыцыі, між іншым, у ваколіцы Бельска і Гайнаўкі, а музей жа таксама пастаянна вывучае Падляшша. І ў выніку быў абвержаны беспадстаўны погляд, што Падляшша не мае народных аздобаў унутры хатаў. Якраз наадварот! Тутэйшыя людзі вельмі любяць такія ўпрыгожанні і захавалі багатыя традыцыі ў гэтай дзялянцы. Усяго мы адразу не можам ахапіць, таму на цяперашні конкурс выбралі толькі дзве формы аздобаў: кветкі і павукі. Нягледзячы на вялізныя ў гэтую зіму цяжкасці з даездам у вёскі і мястэчкі да народных творцаў, паведамленнем іх і г.д., конкурс аказаўся вельмі ўдалы. Прыступіла да яго 33 чалавекі з 14 мясцовасцей Беластоцкага і Ломжынскага ваяводстваў. На яго паступіла 33 букеты, 20 павукоў і іншыя аздобы. Яны выкананы вельмі густоўна, старанна, з вялікай дбайнасцю пра самыя лепшыя традыцыі ў данай ваколіцы. Нас вельмі абрадавалі гэтыя вынікі, і ў будучыні мы намерваемся праводзіць конкурсы на ўпрыгожанні ўнутры хатаў рознымі рэчамі з вышыўкай, маляванымі макаткамі, рознымі ходнікамі і іншымі народнымі дэкаратыўнымі вырабамі.

Журы конкурсу, якому старшынстваваў аўтар нядаўна вышаўшага з друку „Атласа народнага мастацтва і фальклору ў Польшчы", улюбёны ў Падляшша доц. др **Марыян Пракопэк** з Варшаўскага універсітэта, прызнавала ўзнагароды ў дзвюх катэгорыях: за кветкі і за павукі.

За **букеты кветак** першае месца здабыла **Марыя Іванюк** з Яцэвічаў каля Плюцічаў, другое — **Сцепаніда Паплаўская** з Плюцічаў, трэцяе — **Юльля Асіпюк** і **Люба Жабюк** (за ўсе працы) з Турнай Вялікай каля Сямяцічаў; за павукі: першае — **Леакадзія Фігат** з Навадвораў каля Цеханоўца, другое — **Ядвіга Жыгань** з Пабікраў каля Бранска, трэцяе — **Ірэна Мураўская** з Бялых Зеяў каля Багутаў. Было таксама даволі многа ўзнагародаў заахвочвання, між іншым, адну з іх атрымала **Еўдакія Баўтручук** з Плюцічаў.

Не буду таіць: узрушваючае ўражанне я вынес таксама з самой урачыстасці ўручэння спецыяльных дыпломаў і

**(Працяг на стар 5)**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ВОЛЬКА НАДБУЖНАЯ

Трапіце ў яе, едучы па шашы Сямяцічы — Сарнакі. Перад самым мостам на Бузе паварочваеце направа. Ладнай асфальтоўкай пераскочыце цераз вёсачку Малая Турна, шапаткія бярозавыя ды сасновыя пералескі — і перад вамі звычайны вясковы колішні брук Волькі.

Легенда кажа, што пачатак ёй даў нейкі рыбак. Валэндаючыся па прасторных пясчаных „плесах", вірыстых „варах" ці балоцістых рэштках колішняга русла „бужысках", ён добра выгледзеў гэты пагорак і, рашыўшы, што нават найвышэйшая паводка яго не залье, пасяліўся тут. Пры ім прымасціўся яшчэ нехта з яго напарнікаў-сяброў. Так, быццам бы, і пачалося тут жыццё-быццё ўлюбёных у надбужанскае раздолле, вольных ад панскага прыгнёту людзей. Такім радаводам надзяляе гэтую невялічкую, бо ўсяго каля пяцідзесяці гаспадарак, вёсачку з пакалення ў пакаленне пераходзячая традыцыя.

Праўда, з той першапачатковай „вольнасцю", то такой раскошы не было. Вядома, што ўсе вёскі з назвай Воля ці Волька, засноўвалі паны на розных незаселеных абшарах сваіх маёмасцей. Пасяленцаў звальнялі на некалькі год ад паншчыны і данінаў, каб тыя маглі сяк-так абжыцца. Потым жа паступова ўпрагалі ў ярмо паншчынных павіннасцей і пра колішнюю „вольнасць" аставаліся адно імглістыя ўспаміны, што з бегам часу перараджаліся ў красачныя легенды.



*У палове сакавіка гэтага года рака Буг каля Расохі пры Вольцы Надбужнай яшчэ ляжала спакойна ў сваім логаве.*

Працяг на стар.4

# ЧЫТАЧЫ!

**Ад гэтага нумара „Ніва“ будзе каштаваць 1 злоты. Значыць, цана ўзрастае на 40 гр. Гэты захад трэба было зрабіць, каб знайсці грошы на мастацкае ўзбагачэнне нашага тыднёвіка. Ад сёння „Ніва“ будзе мець на дзвюх старонках дадатковы колер. А гэта, мяркуем, будзе да спадобы нашым чытачам. Зрэшты, і прапанова павысіць цану „Нівы“ выйшла ад чытачоў. Гэтую тэму ўзнімалі таксама на двух апошніх з'ездах нашы карэспандэнты.**

**Улічыўшы, што цана „Нівы“ не змянялася ад заснавання рэдакцыі (1956 год), спадзяемся, што ўсе нашы чытачы падтрымаюць нашае рашэнне і новая цана тыднёвіка не паменшыць нашых сябраў. Мы, са свайго боку, будзем старацца, каб „Ніва“ прыгажэла і развівалася.**

**У падпісцы краёвай новая цана ўводзіцца ад III квартала г.г., для заграніцы ад 1.I.1980 г.**

**Цана ў падпісцы будзе выглядаць такім чынам:**

**гадавая — 52 зл.**
**паўгадовая — 26 зл.**
**квартальная — 13 зл.**
**месячная — 4,50 зл.**

**Адначасова паведамляем, што чытачы, якія ўжо зрабілі падпіску, дадатковай аплаты рабіць не будуць (уключна з гадавой падпіскай).**

**Прыемнага чытання**

**РЭДАКЦЫЯ**

## *У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**155 гадоў назад**

19.4.1824 пам. Дж. Байран, англійскі паэт, адзін з выдатнейшых прадстаўнікоў еўрапейскага рамантызму.

**135 гадоў назад**

16.4.1844 нар. А. Франс (сапр. Франсуа), французскі пісьменнік. Нобелеўская прэмія 1921.

**90 гадоў назад**

16.4.1889 нар. Ч. Чаплін, амерыканскі кінарэжысёр, акцёр, сцэнарыст, прадзюсер.

**80 гадоў назад**

17.4.1899 нар. Л. Ржэцкая, беларуская савецкая актрыса, народная артыстка СССР.

* * * * * * * * * *

*17.4..1909 пецярбургская „Ніва“ пісала аб выбарах у Італіі: У найбольшым выйгрышы аказаліся крайнія левыя партыі. Група сацыялістаў заняла ў новым парламенце звыш паўсотні месц. Сярод новых дэпутатаў звяртае на сябе асаблівую ўвагу кіраўнік прафесіянальных рабочых арганізацый Нофры і галава рэлігійнага мадэрнізма, адкінутага папай, дон Рымола Муры. Рэлігійны рэфарматар выступіў з прапаведдзю стварэння хрысціянска-дэмакратычнай партыі. Папскія прыхільнікі пацярпелі рашучае паражэнне.*




ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕЛАРУСЬ!

# НАПРАМАК — ЛЕНІНА

Было гэта напярэдадні 35 гадавіны Людовага Войска Польскага. На сустрэчнай машыне імчаўся я з Оршы ў Леніна, каб уласнымі вачыма ўбачыць гэтую беларускую зямлю, абмытую салдацкай крывёю, дзе пачынала свой баявы шлях першая дывізія імя Тадэуша Касцюшкі.

Вядома, ужо прыязджалі і яшчэ будуць прыязджаць сюды дзесяткі тысяч жыхароў нашай краіны, бо ад школьнай парты вучаць нас аб гістарычнай ролі бітвы пад Леніна. І можа таму, што так многа мы ведаем пра гэтую беларускую вёску, хочацца нам паглядзець на яе ўласнымі вачыма.

...Вось ужо раённы цэнтр Магілёўскай вобласці, **Горкі** — з яго праслаўленай **сельскагаспадарчай акадэміяй,** першай у Расіі гэтага тыпу вышэйшай навучальнай установай, якая была заснавана яшчэ летам 1840 года. Хацелася б спыніцца тут, пахадзіць па вуліцах горада. Гэта аднак можа калі-небудзь іншым разам, бо вось шафёр крута паварочвае ўлева, а дарожны ўказальнік аж на трох мовах: па-руску, беларуску і па-польску, апавяшчае, што мы едзем у Леніна.

Шаша перасякае Смаленскае ўзвышша. Размытыя дажджамі, глiністыя палі шырокімі загонамі то ўзбіраюцца на ўзгоркі, то зноў спаўзаюць у даліны, якія пераходзяць у глыбокія яры. Палявыя дарогі, якія адходзяць ад асфальтавай шашы, раз'езджаныя сельскагаспадарчай тэхнікай, ператварыліся ў балоцістыя канавы. Аж дзіў, што па іх прабіраюцца трактары.

У нейкіх дзесяці кіламетрах за Горкамі паабапал шашы расселася вялікая вёска, здаецца Шалаханаўка. Яна іншая, чымсьці вёскі на захадзе Беларусі. Хаты пераважна драўляныя, але прасторныя, багатыя, найчасцей пабудаваныя на аснове квадрата, з характэрнай размалёўкай сцен, перш за ўсё блакітнай або карычневай, з аканіцамі і прыхатнімі агародчыкамі ды садкамі. Няма гумнаў, няма хлявоў — так характэрных для нашай вёскі.

Бяды тутэйшыя людзі не ведаюць, гэта відаць з першага позірку. Але дзе не сягае асфальт, дарога пераходзіць у раз'езджанае балота. Вось з адной з такіх дарог вылазіць перад намі на шашу дзівосны трактар. Нібы звычайны, але не зусім. Яго велізарныя гумовыя шыны апаясаны гусеніцамі з шырокіх дошак, якімі хлапоча ён па асфальце, быццам з'ява з іншага свету. Аднак гэты „абутак“ дазваляе яму цягнуць велізарны прычэп, запоўнены бульбай, па балоцістых дарогах.

— Ну, зараз будзе і пасёлак Леніна, — гаворыць шафёр, як бы здагадаўся, што маё сэрца пачынае біцца хутчэй. Вачыма паглынаю акружаючы краявід. Рэдкія пералескі і далёка, аж за імглісты кругагляд, усё чаргуюцца гэтыя ўзгоркі і даліны. Дзе-недзе блішчыць рэчка. Можа гэта Мірэя, праз якую ішлі ў атаку на нямецкія акопы салдаты першай польскай дывізіі? Не, Мірэя крыху далей. На штабных картах яна вялікай дугой ад усходу аплывае пасёлак Леніна.

А тут... тут гітлераўскае камандаванне рашыла спыніць далейшае наступленне Савецкай Арміі пасля бітвы пад Курскам. Сярод гэтых узгоркаў, далін і яраў, дзе трудна прымяняць наступаючым цяжкую бронетанкавую зброю, ужо загадзя немцы рыхтавалі глыбока разбудаваную сваю абаронную лінію, на якой давялося адбыць свае баявыя хрэсьбіны польскаму салдату...

Цяпер, пасля 35 гадоў, вядома, шмат чаго тут змянілася. Вось хаця б і пасёлак Леніна. Даўней звычайная беларуская вёска, якая называлася Раманава — на хвалу царскага роду Раманавых. Пасля рэвалюцыі жыхары вёскі напісалі просьбу ў Маскву, каб вёску назваць імем правадыра гэтай рэвалюцыі. Просьбу іх адобрылі і ад 1918 года даўнейшае Раманава называецца Леніна, у якім цяпер жыве каля тысячы чалавек. Працуюць яны ў саўгасе „Леніна“, жывуць у добра абсталяваных новых дамах, ходзяць у прасторны Дом культуры, у школу імя Тадэуша Касцюшкі, у гастраном „Дружба...“ І кожны год вітаюць шматлікіх гасцей з Польшчы, а таксама і з цэлага Савецкага Саюза. Гэта з думкай аб іх пабудавалі ў Леніна шматпавярховую, багата абсталяваную сучасную гасцініцу.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# ХРОНІКА

У Галоўным праўленні БГКТ 25 сакавіка г.г. адбыўся семінар лектарскага гуртка. З дакладам **„Барацьба за народную ўладу на Беласточчыне“** выступіў вядомы аўтар публікацый на гістарычныя тэмы ў „Ніве“ і „Беларускіх календарах“ **Вінцук Склубоўскі.** Удзельнікі семінара ў часе дыскусіі высока ацанілі даклад і рэкамендавалі распаўсюдзіць яго ў нашай арганізацыі як дапаможны матэрыял для падрыхтоўкі дакладаў на фэстыны, урачыстыя вечарыны і сходы, прысвечаныя святкаванню 35-годдзя Народнай Польшчы. **(іс)**

29.3.1979 г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. На ім быў абмеркаваны і зацверджаны даклад на пленум ГП БГКТ. Прысвечаны ён будзе працы гурткоў і адбудзецца 19 красавіка г.г. Была прынята таксама праграма святкавання 35-годдзя ПНР. Гэтай знамянальнай гадавіне, між іншым, будуць прысвечаны конкурсы, фэстыны і новае мерапрыемства — народны „Беларускі кірмаш“.

Прэзідыум вырашыў сёлетні песенны агляд, які сарвала зіма, правесці 12 і 13 мая ў Гайнаўцы.

**Глыбокае і шчырае спачуванне галоўнаму рэдактару „Нівы“**
**ГЕОРГІЮ ВАЛКАВЫЦКАМУ**
**і нашай сяброўцы**
**ВЕРЫ ВАЛКАВЫЦКАЙ**
**з прычыны смерці**
**МАЦІ**
**выказваюць усе супрацоўнікі „Нівы“ і яе карэспандэнты.**

**Naczelnemu Redaktorowi**
**JERZEMU WOŁKOWYCKIEMU**
**I RED. WIERZE**
**WOŁKOWYCKIEJ**
**serdeczne wyrazy współczucia**
**z powodu zgonu**
**MATKI I TEŚCIOWEJ**
**składają:**
**Dyrekcja RSW „Prasa-Książka-Ruch”, pracownicy redakcji „Niwy”, „Gazety Współczesnej”, POP, i Rada Zakładowa**

**У сувязі са смерцю**
**МАЦІ**
**выказваем глыбокае спачуванне намесніку старшыні ГП БГКТ, галоўнаму рэдактару „Нівы“**
**ГЕОРГІЮ ВАЛКАВЫЦКАМУ**
**Прэзідыум ГП БГКТ**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Выдатныя дасягненні і амбітныя планы ТППР на Беласточчыне ● Дэлегат з Трасцянкі ● Агляд тэатральных калектываў ● Мелодыя дружбы ● ТППР у дзейнасці ● Не варта хваліцца — раіць Пілiп Саскі ● Калі поснае, то і прыправы мала даюць ● Весткі з Нараўкі, Кляшчэляў, Заблудава, Гарадка, Дубровы, Навасад, Белавежы, Гайнаўкі, Відава, Бельска ● З украінскага гумару ● Паэт Салавейчык у доктара Знахарука ● Песня „Мой адрес — Советский Союз“**

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 13 IV** — 8.35 Film fab. 18.45 Film fab. 20.35 Film fab.

**Sobota 14 IV** — 8.35 Film fab. 11.40 Sport. 13.50 Film fab. 16.25 Film anim. 17.05 Nie do wiary. 18.55 Film fab. 20.35 Hokej.

**Niedziela 15 IV** — 10.00 Film fab. 13.45 Koncert życzeń. 14.50 Film anim. 15.10 Panorama międzynar. 15.55 Hokej. RFN — ZSRR. 18.30 Piosenka — 79. 19.00 Klub film. 20.35 Hokej. Kanada — Czechosł.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: **субота, 12.05 — 12.25 (UKF)**

## КІНО

**Białowieża** Gdybym miał dziewczynę — czes. 17—18. Długi weekend — hiszp. 19—20. Spirala — pol. 21—22.

**Bielsk Podl.** Rewizja osobista — pol. Trzej muszkieterowie — panam. 16—17. Ingo zagraj w filmie — radz. 18—19. Ostatni raz — USA 20—21. Niewierna żona — fr. 22—23.

**Czyże** Wesela nie będzie — pol. Miłosne życie Budimira Trajkovicia — jug. 18—22.

**Gródek** Agnieszka idzie na śmierć — wł. 21—22.

**Hajnówka** Zasady domina — USA 17—18. W okopach Stalingradu — radz. 21—22.

**Michałowo** Śmierć przychodzi dwa razy — buł. 17—18. Niewinna — wł. 19—20. Romans Teresy Hennert — pol. 21—22.

**Mielnik** Siedem piegów — NRD 18. Miłość Adeli H. — fr. 21—22.

**Milejczyce** Czarne i białe w kolorze — pol. 18—22.

**Narew** Hallo Szpicbródka — pol. Wyspa skarbów — pol. 18—22.

**Narewka** Czas miłości i nadziei — czes. Joe Valachi — wł.-fr. 18—22.

**Nurzec** Pułapka na generała — jug. 17—18. Siedem piegów — NRD 19—20. Ostatni raz — USA 21—22.

**Orla** Antyki — pol. Powrót straconych — jug. 18—22.

**Rajsk** Niedokończony utwór na pianolę — radz. Romans Teresy Hennert — pol. 18—22.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**
**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-959 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 751. Nakład 7700 egz. S-2.

## ТАК БЫВАЕ...

Эх, вясна, вясна, красуня года! У кожнага ты свая і для кожнага ты розная. Абудзіла ты прыроду, прыбрала зеленню і кветкамі дрэвы, палі і лугі. Асабліва лес упрыгожыла шматлікімі колерамі і стаў ён прывабны. Вясною хочацца быць у лесе, падыхаць пахучым паветрам.

Марына ў лес прыйшла і наглядзецца не можа на ўбранства яго, на гэты веснавы гоман, на абуджанае жыццё прыроды. Села на пянёк, глядзіць і вачам сваім не верыць. Бачыць яна малютку-дзіцянё, якое весела гуляе, кветкі зрывае, а вакол яго пчолы жужжаць, плывуць за ім. А пасля ў яго руках пчолы гульні завялі. Пралазяць між маленькімі яго пальчыкамі, а дзіцюк сціскае ручку і радасна смяецца.

Марына глядзіць, глядзіць і раптам ахнула так, што дзіцюк пачуў яе прысутнасць і накіраваўся да яе. Божа мой, ці ж гэта праўда? Гэта ж яе сыночак Сержык. Ён ужо бег да яе з усхваляваным дзіцячым смехам, у якім пачула яна і шмат гора.

— Мамка, як добра, што ты ўрэшце прыйшла. Я так хацеў цябе яшчэ раз убачыць, — прагукаў хлапчук, падаючы ў калені маці. А за ім прыплылі пчолы і жужжаць над галавой маці. Яна іх баіцца, адхіляецца, рукою адмахваецца.

— Не бойся, мама, пчолаў, — прагаварыў сынок — яны добрых людзей не чапаюць. І сапраўды пчолы яе не чапалі, селі кругом яе на траву, на галінкі дрэў і глядзяць, насцярожаныя, бліскучымі сваімі вачыма на Марыну, быццам сочачы, каб маці свайму сыну не зрабіла крыўды. У гэтым часе Сержык песціўся на руках маці, прытуляўся, а пасля падняўся, па-дзіцячаму абняў Марыну за шыю, моцна пацалаваў і пачаў гаварыць, як дарослы. І сам ён быў значна большы ад таго Сержыка, якога маці знала. І стала ціха-ціха. Сержык кожным словам, быццам іголкай, калоў маці, выказваў свае крыўды, дакараў нягодніцу.

— Мамачка, я такі яшчэ маленькі чалавек. Пражыў я толькі пяць дзён. А чаму ты не хочаш, каб я жыў далей, каб вырас і быў добрым чалавекам? Чаму ж ты не хочаш, каб я жыў і рос і ў будучым быў добрым для цябе? Хачу я, каб выбранае табою імя маё, Сержык, пачулі блізкія добрыя людзі, і каб бабуля пачула, і папка пачуў.

— Мамка, калі ты не хочаш, каб я табе перашкаджаў, аддай мяне каму, але не забірай мне жыцця, не пакідай

## ЗЛАЧЫНСТВА МАЦІ

мяне ў гэтым лесе! Я хачу жыць! Нічога, што я такі маленькі яшчэ, бездапаможны і не ўмею гаварыць. Цяпер гаворыць за мяне мая крыўда.

Марына не магла ад плачу адазвацца. І зноў Сержык стаў такім маленечкім, пяцідзённым дзіцём і пачаў разн маць роцік, есці прасіў у маці. І пачуўся ціхенькі шопат: — Мамка, пакармі мяне так, як карміла ты мяне ў бальніцы. Прытулі мяне да сваіх грудзей і дай мне свайго салодкага, як мёд, малака, пацалуй мяне, ратуй мяне! Я, мусіць, буду паміраць! Мне млосна! Чуеш, мамка! Я паміраю! А маці не пачула. Пачулі гэта пчолы і раптоўна ўзляцелі, з ярасцю зажужжалі, зашумелі і з нянавісцю сваімі ядавітымі джаламі заатакавалі Марыну. І яна стала крычаць, стала ратавацца ад смерці, махаць рукамі, выкідаць аваднёў з носа, з-за каўнера.

Дзікім крыкам сарвала Марына з ложка сваю маці, якая прыбегла і пачала трымаць за рукі Марыну і дапытвацца, што здарылася, што ёй прыснілася. Марына прачнулася, але некалькі хвілін была яшчэ атуманена страшным сном.

— А дзе Сержык? Дзе Сержык? — дапытвалася Марына. — Ганяйце ад яго пчол!

Маці гэта імя было незнаёмае. І калі Марына прыйшла ў сябе, пад націскам маці прызналася ва ўсім, як на споведзі. І калі ўпэўнілася, што мужа няма дома (ён прыязджаў толькі на нядзельныя дні), села насупраць маці і пачала гаварыць.

— Мама, я зманіла. Я не мела „паранення". Я нарадзіла ў бальніцы ладнага хлопчыка. Пяць дзён ім любавалася, пяць дзён называла яго Сярожыкам-Сержыкам. Баялася я Кліма, які адразу здагадаўся б, што гэта не яго дзіцё, бо на яго было яшчэ зарана. Таму прасіла, каб па мяне муж не прыязджаў. І добра, што не прыехаў.

— А дзе ж ты яго падзела, нягодніца?!

— Мама, вечарам прывезла я яго таксоўкаю і занесла на скрай нашага лесу ды там яго пакінула. І Сярожка там памёр. Гэта ж яго назаўтра знайшлі, помніш, калі гаварылі аб знойдзеным нежывым дзіцяці. Я тады ўвесь дзень праплакала. А сёння ўва сне спаткалася са сваім Сержыкам. Ён быў пачаткова маленькім, маленькім, а пасля бачыла яго большым і гаварыў ён, як дарослы, а пасля зноў стаў такім пяцідзённым. Пачаў прасіць есці, а пасля пачаў паміраць. І за тое, што я не ратавала яго, накінуліся на мяне пчолы, якія ім апекаваліся. І пачалі мяне кусаць. А я стала ратавацца ад іх, ад смерці. І таму праз сон так крычала ад болю і страху.

Маціківала галавою і паўтарала: „Значыць, быў у нас першы ўнук. І ты яго забіла. Бог цябе пакарае". І пачала старая плакаць, а з ёю Марына.

**Міхась Сваяк**

## З маёй званіцы

## ЦІКАВАЯ СУСТРЭЧА (3)

Шчыры расказ падвыпіўшага і закаханага дзеда страшэнна падкупіў мяне. Я заварожана глядзеў на яго і бачыў, як ён, расказваючы, нанава перажывае сваё першае каханне, якому верны да канца. І думаў сабе, як можна пранесці праз усё доўгае і нялёгкае жыццё такія ненарушаныя пачуцці. І ці будзем здольны мы, іх дзеці, на такое, каб быць так вернымі ў пачуццях сваім насцям і добрымі і мілымі для ўсіх наогул? — Не ведаю. А колькі паэзіі ў яго апавяданні! На жаль, не ўсе старэйшыя людзі даюцца падабацца. Ёсць бурклівыя, усім незадаволеныя, робячыя ўражанне, што ўсё на гэтым свеце трымаецца толькі таму і датуль, пакуль яны існуюць.

Але вернемся яшчэ да майго дзеда.

— А як вашы сын і нявестка?

— Добрыя.

Гэта і відна, думаю я, бо калі паслалі дзеда спрашаць гасцей на хрысціны свайго дзіцяці, ды тых важнейшых гасцей, гарадскіх, то, бадай, усё там у парадку.

— А ўнукі якія ў мяне! Каб ты толькі бачыў. А прыгожанькія, а разумненькія. Старэйшы заснуць без мяне не можа. А гэты, што толькі нарадзіўся, кажуць, падобны на мяне!

А гаварыў аб гэтым так, як бы нявестка гэтага хлопчыка нарадзіла спецыяльна для яго і па яго заказу. Слухаючы гэта, аж напрашалася сказаць, да чаго ж разумныя і хітрыя ў цябе, дзед, і сын, і нявестка, калі так умела перакінулі свае абавязкі па гадаванню дзяцей на твае і Насці тваёй ужо слабенькія плечы. Ацаніць вашу работу ў поўнай меры можа толькі той, хто сам гадуе дзяцей. Бо я, напрыклад, ведаю цану гадавання дзяцей. А вось дзедаў сын і нявестка, здаецца, не ведаюць. Толькі і мелі клопатаў з дзецьмі, што іх нарадзіць. А цяпер спяць сабе спакойна і можа далей камбінуюць дзедам унучанятаў. Найвыразней відаць, што пры падобнай сямейнай камбінацыі выгаду маюць усе: і дзяды, і іх дзеці, і ўнукі.

— А як ваш Ваня? — зноў запытаў я.

— Дзе ён цяпер, як улажылася яго жыццё, ці жанаты?

— З Ванем таксама добра. Жыве ў Вроцлаве, жанаты, мае дзіця, дзяўчынку. Але жонка яго, праўду кажучы, мне не падабаецца. Ведаеш, гарадская панюлька, родам з вялікага горада. Ёй у нас усё чужое. Шкада Вані, добры ён хлопец і яму не такая патрэбна жонка, але няхай ужо жывуць на здароўе. Ён будзе на хрысцінах, сам і пагаворыш.

— А ці прыедзе ён з такой далечыні?

— Прыедзе, — упэўнена адказаў дзед.

Такая ўпэўненасць яго мяне крыху здзівіла. От добры сын, — падумаў я, — калі такой страшэннай непагаддзю будзе ехаць кіламетраў семсот, каб праведаць бацькоў, а я жыву кіламетраў дваццаць пяць ад сваіх і ўжо трэці тыдзень ніяк не адважуся і таму наіўна яшчэ раз запытаў:

— Ці ж адважыцца ён у такую лютую зіму?

— Адважыцца, напэўна адважыцца. Я закалоў парсючка і ён аб гэтым ведае.

Я рассмяяўся.

— Вось бачыце, якія мы, вашы дзеці, халернікі.

— Чаму? Я за гэта не гневаюся. І нічога ў жыцці больш не хацеў, сынок, каб да самай сваёй смерці мог даваць сваім дзецям і ўнукам. І моцна пагневаўся б, каб яны не хацелі ў мяне браць.

— Ну і малайчына ты, дзед, і вогуле вы, ваша пакаленне, малайцы.

І ціха сабе падумаў, як мала ім трэба да шчасця, а мы часам і ў гэтым мінімуме ім адмаўляем.

На двары пачало ўжо цямнець, наначбраўся мароз, і я правёў дзеда на прыпынак ды пасадзіў у таксі.

Развіталіся мы, як добрыя сябры, аблабызаўшы тройчы адзін аднаго.

— Бывайце!

— Бывай, сынок! І абавязкова прыязджай!

І зноў спраўдзілася народная мудрасць, якая гаворыць, што па адзенні сустракаюць, а па розуму праважаюць.

**Піліп Саскі**

## НАША ДЗЕСЯЦІГОДКА

### ПАДРЫХТОЎКА ДА ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЙ ПРАЦЫ

Дзесяцігадовая школа — гэта ўсеагульная школа, значыць, яна не толькі даступная ўсім, але таксама абавязковая для ўсіх дзяцей і моладзі. Такім чынам, кожная дзяўчынка і кожны юнак, пражываючыя ў гарадах, мястэчках і вёсках нашай краіны не толькі змогуць, але будуць вымушаны закончыць дзесяцікласную школу.

Для той групы моладзі, якая па сямейных ці іншых важных прычынах пасля заканчэння дзесяцігодкі захоча пайсці працаваць, прадбачваецца арганізаванне падрыхтоўваючых да працы класаў, так званых прафесіянальных класаў. Яны будуць арганізавацца для моладзі, закончыўшай сёмы або восьмы клас дзесяцігадовай школы. Такія класы паўстануць усюды там, дзе знойдзецца адпаведная колькасць кандыдатаў, патрэбныя настаўніцкія кадры і ўмовы для заняткаў.

Такім чынам пасля дзесяці год вучобы разам з пасведчаннем аб заканчэнні дзесяцікласнай сярэдняй школы гэтая частка моладзі будзе ўступна падрыхтавана да працы ў сельскай гаспадарцы, на прадпрыемствах сельскагаспадарча-спажывецкай прамысловасці, будаўніцтве і іншых галінах гаспадаркі або ў розных формах паслугаў для насельніцтва.

Так згодна з імкненнямі нашага грамадства будзе ліквідавана праблема моладзі з сярэдняй адукацыяй, якая не мае ніякай прафесіянальнай падрыхтоўкі да працы, і найважнейшае — перастане існаваць праблема моладзі, што нідзе не вучыцца і не працуе. Адначасова паўставанне падрыхтоўваючых да выконвання акрэсленай прафесіі класаў дасць магчымасць спраўна ліквідаваць выступаючыя ў тых ці іншых мясцовасцях лішкі людзей з падрыхтоўкай па адной спецыяльнасці і недахопы кадраў па іншых спецыяльнасцях. Гэта дазволіць рацыянальна гаспадарыць кадрамі.

Такія класы дадуць магчымасць адпаведна спажыткаваць прафесіянальныя зацікаўленні моладзі згодна з напрамкамі і патрэбамі грамадства, рэгіёнаў і ўсяе краіны.

**др Мікалай Грыгорчук**



**Гарадскія замалёўкі.** Беласток. Фота Я. Целушэцкага.

### ПЫТАННІ ПА ЛІТАРАТУРЫ НА ВУСНЫ ЭКЗАМЕН ДЛЯ КАНДЫДАТАЎ НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

1. Перыядызацыя беларускай літаратуры.
2. Характарыстыка літаратуры перыяду Кіеўскай Русі.
3. Беларуская літаратура перыяду Вялікага Княства Літоўскага.
4. Беларуская літаратура XIX ст.
5. Характарыстыка літаратуры нашаніўскай пары.
6. Беларуская літаратура савецкай эпохі.
7. Беларускія літаратурныя арганізацыі ў гадах 1922-1932.
8. Беларускія сучасныя літаратурныя часопісы.
9. Характарыстыка паэмы „Тарас на Парнасе".
10. Жыццё і паэзія Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.
11. Характарыстыка драматургіі Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.
12. Жыццё і паэзія Францішка Багушэвіча.
13. Жыццё, дзейнасць і публіцыстыка Кастуся Каліноўскага.
14. Жыццё і творчасць Янкі Лучыны.
15. Характарыстыка жыцця і творчасці Цёткі.
16. Жыццё і паэзія Янкі Купалы.
17. Характарыстыка дакастрычніцкіх паэм Янкі Купалы.
18. Драматургія Янкі Купалы.
19. Характарыстыка савецкага перыяду ў творчасці Янкі Купалы.
20. Жыццё і дзейнасць Якуба Коласа.
21. Характарыстыка апавяданняў Якуба Коласа.
22. Паэмы Якуба Коласа „Новая Зямля" і „Сымон-Музыка".
23. Характарыстыка адной з аповесцей Якуба Коласа.
24. Савецкі перыяд у жыцці і творчасці Якуба Коласа.
25. Жыццё і творчасць Максіма Багдановіча.
26. Наватарства і традыцыя ў паэзіі Максіма Багдановіча.
27. Жыццё і творчасць Змітрука Бядулі.
28. Паэзія Змітрука Бядулі.
29. Проза Змітрука Бядулі.
30. Жыццё і творчасць Кандрата Крапівы.
31. Байкі ў творчасці Кандрата Крапівы.
32. Характарыстыка адной з п'ес Кандрата Крапівы.
33. Характарыстыка аднаго з твораў Міхася Лынькова.
34. Жыццё і творчасць Максіма Танка.
35. Заходнебеларускі перыяд у творчасці Максіма Танка.
36. Савецкі перыяд у паэзіі Максіма Танка.
37. Характарыстыка аднаго з раманаў Івана Мележа.
38. Характарыстыка аднаго з раманаў Івана Шамякіна.
39. Характарыстыка адной з аповесцей Васіля Быкава.
40. Сучасная беларуская маладая паэзія.

*(Праз тыдзень пытанні па граматыцы.)*




Дарагое Сэрцайка, я хоць і старэйшая ўжо жанчына, але чытаю твае парады. І ўжо даўно збіралася напісаць да цябе, калі прачытала ліст жанчыны, якая развялася з мужам і не хоча больш выходзіць замуж, бо ёй здаецца, што няма добрых мужчын. А маё становішча было падобнае. Выйшла я замуж маладая, з вялікага кахання. Мой нарачоны прыгожа спяваў, добра танцаваў, ну, вадзірэй у кампаніі. Але і да гарэлкі і да бойкі таксама быў першым. Вылезла мне гэтая дзявочая лёгкадумнасць бокам хутка пасля вяселля. Надалей муж трымаўся вясёлай кампаніі. Вяртаўся часта п'яны і скандалы ў нашай хаце былі вельмі часта. Нарадзілася двое дзяцей — і стала яшчэ горш. Муж прапіваў грошы, біў мяне і дзецям таксама даставалася. Так мы прамучыліся з ім дзесяць гадоў. І мо далей так катаржнічала б, але муж мой знайшоў сабе іншую і пакінуў нас. Выехаў кудысь далёка. Я сама, як магла, старалася, многа працавала, каб маім дзецям не было горш, як іншым. Так пражылі мы пяць гадоў. І тады пасватаўся да мяне мужчына. Спачатку я слухаць аб замужжы не хацела. Тады перад вачыма паўставаў вобраз майго колішняга жыцця і дрыжыкі праходзілі па ўсім целе. Але бацькі і знаёмыя раілі выходзіць. І я паслухалася іх. Мужчына быў кавалерам, ён так палюбіў маіх дзяцей, а дзеці яго. Сын і дачка татам яго называюць. Сын з усімі справамі хутчэй да яго, як да мяне звяртаецца. Я баялася, мо зменіцца ўсё, калі народзіцца наша супольнае дзіця. Нарадзіўся сын. Цяпер у нас трое дзяцей і ўсе яны нашыя, усе аднолькава шчаслівыя. Жывем мы шчасліва, радасным жыццём, а мінулае ўспамінаем, як страшны кашмарны сон. Вось і хачу я сказаць, што варта выйсці і другі раз замуж, толькі не лап-цап, як кажуць, але добра пазнаўшы чалавека.

Ваша сталая чытачка.

Дарагая наша Чытачка! Дзякуем за такі аптымістычны ліст. За тое, што захацелі вы падзяліцца з намі сваім жыццёвым вопытам, бо многа ёсць яшчэ жанчын, якія ў жыцці, раз добра апарыўшыся, і на халоднае потым дмухаюць. Можа твой ліст дадасць ім адвагі спрабаваць нанава звіць сямейнае гняздо, хаця першае ў іх разбурылася.

**Сэрцайка**




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### З ПЛАЎЛЕНАГА СЫРА

У апошні час не толькі ў гарадах, але і ў вясковых магазінах на паліцах відаць шмат плаўленых сыроў. Бываюць яны розных сартоў: з кменам, з папрыкай, з шынкай, з грыбамі, з часнаком, з памідорамі, з цыбуляй, а таксама і звычайныя — без ніякіх дадаткаў. І адны і другія вясною можна ўзбагаціць яшчэ зялёнай цыбуляй, пятрушкай, радыскай, ці салатай. Неабходна памятаць аб гэтым, падрыхтоўваючы бутэрброды з плаўленым сырам.

З паст з топленага сыра можна рабіць таксама стравы са шпротамі, сардынкамі, дробна нарэзанай каўбасой. Тут магчымасцей шмат. Можна дадаваць смятану, яечкі, кмен, папрыку, цыбулю, дробна нарэзаны агурок ці марынаваныя грыбкі. Калі ж дадамо да пасты крыху масла, то не трэба будзе ім змазваць бутэрброды.

У многіх вёсках гаспадыні так налаўчыліся выкарыстоўваць плаўленыя сыры (асабліва ў гуртках вясковых гаспадынь), што робяць нават бульбяныя аладкі з плаўленым сырам. А ўжо вельмі смачнае выходзіць салонае пячэнне, або блінчыкі, фаршыраваныя крэмам з плаўленага сыра.

Ёсць аднак людзі, якія не маюць асаблівага даверу да плаўленых сыроў, бо яны нібыта клеяцца і смаку не маюць ніякага. І таму прадаўшчыцы ў магазінах часта маюць клопаты з продажам плаўленых сыроў. А яны ж у сапраўднасці маюць вялікую вартасць. Найлепшым прыкладам было б тое, што 100 г плаўленага сыра адпавядае па вартасці 270 г ялавічыны. У плаўленых сырах знаходзіцца лёгкастраўны бялок. У 100 г яго знаходзіцца 19 г бялку.

Упакоўка плаўленых сыроў спрыяе таму, што яны не псуюцца, і ў халодным месцы можна іх перахоўваць да паўтара месяца ад даты выпуску.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне, прыснілася мне, што ў дачкі мае быць вяселле. І то на вёсцы, у хаце маіх цесцяў (яны абое ўжо не жывуць, а дачка ўжо замужняя). Пазбіраліся госці. Усе стаяць у пакоі, а ў гэтым пакоі няма ні сталоў, ні крэслаў, толькі адзін разасланы тапчан. Дзве жанчыны — яны сёстры, пачалі вельмі прыгожа спяваць, я таксама падспеўваю. А потым адна з іх легла на гэты тапчан, накрылася коўдраю, а другая паглядзела на яе і таксама легла на тапчан каля яе. А я гляджу, пасцель гэта не свежая і думаю, вось я забыла змяніць пасцель. Ды гавару, пара ўжо і мне апранацца, а хтосьці дадае, што ўжо даўно ты гэта павінна была зрабіць. А дачкі, хаця ж гэта яе вяселле, праз увесь сон я не бачыла Потым гляджу я на вуліцу, а там ідуць два папы, апранутыя ў чорнае адзенне. І я падумала, што трэба з імі дагаварыцца, калі шлюб. Але тут выбегла на вуліцу мая цёшча і пайшла ў кірунку гэтых папоў, афармляць тую ж справу. Яна, калі жыла, была хворая, згорбленая, а тут выпраставаная, толькі крышку пахіленая і так хутка пайшла. Я з прыемнасцю і задавальненнем гляджу, што яна такая жвавая. Тут і прачнулася.

А маёй дачцы ў тую ноч сніўся вельмі цяжкі сон. Быццам бы яна была цэлая ў ранах, раны адкрытыя, балючыя. Устала змучаная, нявыспаная.

Непакояць мяне гэтыя сны, ці не чакае нас нешта нядобрае?

Марыся

**Марыся!** Сны вашы супярэчлівыя. Могуць быць у вас дробныя непаразуменні (гэты шлюб), ці не надта страшная хвароба (пасцель). Гэтыя непрыемнасці лагодзіць твая цёшча-нябожчыца, а тое, што дачцы прысніліся раны на целе, абазначае, што будзе яна здаровая.

**Астрон**

HELENA VONDRAČKOVA



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвала** Гражына Кайдэвіч з Нараўкі.

## Кансультацыі юрыста

ПЫТАННЕ: А. ужо 70 год і яна атрымоўвае пенсію па мужу. Пражывае недалёка горада на гаспадарцы 0,7 га. Сын яе працуе на чыгунцы і пражывае ў горадзе. Частка яе гаспадаркі экспрапрыіруецца дзяржавай на грамадскія мэты. Ці можа яна дамагацца, каб дзяржава экспрапрыіравала ўсю гаспадарку, а калі не, то ці можа яна перадаць гаспадарку сыну?

АДКАЗ: Дзяржава мае права экспрапрыіраваць на свае патрэбы нерухомую маёмасць або яе частку, калі нерухомая маёмасць патрэбна, прыкладна, на пабудову прадпрыемства ці ўстановы. Калі на гэту мэту патрэбная толькі частка нерухомай маёмасці — у даным прыкладзе гаспадаркі — то дзяржава не можа экспрапрыіраваць цэлую гаспадарку.

А. можа аддаць гаспадарку дзяржаве за пенсію або патрабаваць, каб гаспадарку ўзяла дзяржава, заплаціўшы за яе вартасць — згодна з законам з 27 кастрычніка 1977 аб пенсіённым забеспячэнні і іншых павіннасцях для сялян і іх сямей. Умовы, на якіх экспрапрыіруецца нерухомая маёмасць, з'яўляюцца для ўласніка больш карыснымі, чым пры продажы нерухомай маёмасці дзяржаве.

Перадаць гаспадарку сыну даравальным запісам або завяшчаннем нельга, паколькі сын не з'яўляецца селянінам і не мае кваліфікацый для кіравання сельскай гаспадаркай. Магчымасць гэткая паўстала б, калі б пасля экспрапрыяцыі часткі гаспадаркі асталося менш чым 0,5 га, а тым самым нерухомая маёмасць перастала б быць сельскай гаспадаркай.

(Пачатак на стар. 8)

**Кур'ёзы**

### ЗАЙЗДРОСНЫЯ ЦЁЗКІ

пануе свае паслугі ў музыцы на вечарынах, імянінах, вяселлях. Людзі запрашаюць яго да сябе на музыку. Прыемна бывае таму ці іншаму саліднаму гаспадару запрасіць сяброў у госці і пры гэтым паведаміць: улічыце, іграць будзе сам Ян Себасцьян Бах! І госці таксама адчуваюць пэўную прыемнасць паслухаць Баха, хаця і ведаюць, што не той Бах.

Калі б мёртвыя маглі хоць аднойчы дазнацца, што робяць жывыя, дык вялікі Бах, пэўна б, пажадаў змяніць сваё прозвішча на нейкае іншае.

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




## ПА СЛЯДАХ ЯНТАРНАГА ПАКОЯ

— Капут! — узрадаваўся „Эрых".

Адзін з матацыклістаў нечакана ўткнуўся носам у руль. Машыну занесла на бок, і яна з размахам паляцела ў кювет.

— Увага, за тымі дрэвамі выскокваем з машыны. Вы бярыце гэту змяю, а мы са старшым лейтэнантам Бондэрам будзем прыкрываць вас, — аддаваў распараджэнні камандзір, мяняючы абойму ў аўтамаце, — выскоквайце! — крыкнуў ён.

Яны схапілі пад рукі Кульжэнка і, сагнуўшыся, перабеглі праз дарогу ў лес. Камандзір і Бондэр, хаваючыся за соснамі, абстрэльвалі другі матацыкл, з якога саскоквалі ўжо жандары. З боку шлагбаума да лесу бегла група ўласаўцаў. Дзве гранаты трапілі ў машыну, пакінуўшы ад яе абломкі. Успыхнуў пажар.

— Бяжым за імі ў лес. Тут нас прыкончаць, — крыкнуў Бондэр.

Не перастаючы адстрэльвацца, яны адыходзілі ў глыбіню лесу. Немцы падзяліліся на групы. Трое пусцілася ў пагоню за Кульжэнка і яе эскортам, стараючыся перарэзаць ім дарогу, астатнія абстрэльвалі ар'ергард.

Першым упаў Бондэр. Серыяй з аўтамата яго перарэзала папалам. „Пашанцавала чалавеку, — падумаў камандзір. — А хто мяне прыкончыць? Толькі б не страціць прытомнасці", — паўтараў ён увесь час.

Ён перабягаў ад дрэва да дрэва, не перастаючы адстрэльвацца. Даўно страціў з поля зроку таварышаў, якія павялі Кульжэнка. Ён не чуў нават, як яны прадзіраліся скрозь густыя зараснікі. Але інстынкт, выпрацаваны ў школе разведчыкаў і партызанскім атрадзе, беспамылкова вёў яго па іх следу. Ён ведаў, што яму пагражае яшчэ адна небяспека.

Калі ён вельмі адстане ад сваіх, першая група праследвальнікаў апынецца паміж ім і яго таварышамі.

Ён бег з апошніх сіл, ледзь пераводзячы дыханне. Скінуў цяжкі скураны плашч. Застаўся толькі ў мундзіры штурмбанфюрэра СС. Але раптам нешта моцна ўдарыла яго ў нагу, ён зрабіў яшчэ крок і ўпаў. Глянуў на нагу: раздроблена калена. Зразумеў, што гэта ўжо канец. Падпоўз да старога дуба, паклаў побач звязку гранат і пісталет. „Гэта ў канцы", — падумаў ён, не перастаючы страляць са свайго „бергмана". Потым, калі скончыліся боепрыпасы, ён працягваў страляць з пісталета да таго часу, пакуль куля не прашыла яго левага перадплечча.

„Ну, Валодзя, настаў твой час", — прашаптаў ён. Скруціўся клубком пад дубам, сціснуў гранаты параненай рукой і нагамі. Уголас лічыў: „Раз, два, тры, чатыры..." Магутны выбух скалануў векавыя дрэвы.

Тым часам два афіцэры прабіраліся лесам, цягнучы за сабой Кульжэнка, якая з усіх сіл супраціўлялася. Яна разумела, што яе выратаванне — у прамаруджванні, і рабіла для гэтага ўсё. За іх спінамі час ад часу чуліся выстралы, пагоня была зусім блізка.

— Хутчэй, хутчэй! — прыспешваў вадзіцель і, звяртаючыся да Кульжэнка, кінуў:

— Ты, змяя, чым больш павольна паўзеш, тым хутчэй трапіш пад кулю сваіх нямецкіх сяброў.

Але ён памыліўся. Кульжэнка перажыла яго. Нечакана вадзіцель захістаўся і ўпаў. З шыі пырснуў разліваючыся ўсё шырэй струменьчык крыві. Ён быў мёртвы.

Апошні ўдзельнік смелай вылазкі цягнуў за сабою Кульжэнка, падштурхоўваючы яе пісталетам.

— Не думай перахітрыць мяне, — прасіпеў ён ёй на вуха. — Пры самай нязначнай спробе ўцячы або супраціўляцца прыстрэлю цябе. Зразумела?

Кульжэнка ведала, што ён без ваганняў выканае сваю пагрозу. Яна паслухмяна бегла, гатовая выканаць любы загад.

Перад імі адкрылася палянка. Некалі тут стаялі будынкі, але вайна не абмінула нават гэтага ляснога кутка. Ад будынкаў засталіся толькі зарослыя пустазеллем абломкі фундамента.

Кульжэнка бегла з апошніх сіл, увесь час спатыкаючыся. Два разы яна ўпала. На сярэдзіне паляны „Гольдэр" раптам пахіснуўся, зрабіў нейкі дзіўны рух і ўпаў на зямлю. Кульжэнка, якая бегла наперадзе, спачатку не заўважыла адсутнасці свайго „целаахоўніка". Толькі дабегшы да процілеглага боку паляны, азірнулася і зразумела, што свабодная.

Яна кінулася на зямлю, адначасова смеючыся і плачучы ад радасці.

— Ніхт шысэн, ніхт шысэн! Не страляць! Ніхт шысэн! — крычала яна немцам, якія беглі да яе.

Аперацыя, прадуманая партызанамі да апошняй дробязі, правалілася ў выніку непрадбачаных акалічнасцей. У Кіеў Кульжэнка вярнулася яшчэ больш вернай служкай акупантаў.

*(Працяг будзе).*

„Ніва" 15 красавіка 1979 г.
№ 15 (1207) 6 стар.

# ЦЮЛЬПАНЫ

Яны былі вельмі прыгожыя. Стаялі ў цэнтры на стале — побач з іншымі букетамі кветак. Але свае рознакаляровыя галоўкі трымалі вышэй за астатніх.

У клас адзін за другім, па-святочнаму апранутыя, сур'ёзныя, уваходзілі школьнікі: хутка развітанне са школай. — А сёння — чарговы экзамен.

І кветкі, аблашчаныя промнямі веснавога сонца, якія ўрываліся ў шырокія вокны, рабілі настрой яшчэ больш прыўзнятым, абстаноўку — урачыстай. — Нават класная не ўтрымалася:

— Якія цудоўныя цюльпаны!

Да пачатку экзамену засталося некалькі мінут, калі дзверы адчыніліся. У клас нясмела ўвайшла бабуля. Прыглядзелася. Позірк яе спыніўся на кветках...

— Вось яны... Усе! Так я іх берагла. Першы раз за свае семдзесят гадоў пасадзіла. Ай-яй-яй....

Пасля экзамену хутчэй звычайнага ўсе выйшлі з класа. У той дзень ніхто не дарыў настаўнікам букетаў кветак. Так і засталіся ўсе яны на стале. Бо сярод іншых кветак, схіліўшы жоўтыя і чырвоныя галоўкі, стаялі цюльпаны, зрэзаныя без дазволу з чужога кветніка.

**В. Найдзін**




*Прырода помсціцца.*



**Магістр Мантач дакапаўся да ісціны, каб закапаць яе глыбей.**

# НІЎКА





*З жыцця вялікага свету.*

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Муж адарваўся ад газеты:

— Ты нешта сказала, Сандра?

— Так, Джузепе, але гэта было ўчора.

*

Ганс і Эрых ідуць па Лондану.

— Паслухай, Ганс, ты не ведаеш, якая гэта рака?

— Уяўлення не маю. У нас у Кёльне яна завецца Рэйн.

*

Браўн набірае нумар тэлефона.

— Прывітанне, — гаворыць ён. — Міcіс Браўн?

— Так.

— Гэта Джэк. Ты не будзеш супраць, калі да нас прыйдуць абедаць некалькі вясёлых хлопцаў?

— Вядома не, дарагі!

— Ало, ты чула, што я сказаў?

— Так, дарагі, ты спытаў, ці можна прывесці з сабой некалькі вясёлых хлопцаў паабедаць. Так, вядома, можна.

— Прашу прабачэння, я няправільна набраў нумар, — прамармытаў Браўн і павесіў трубку.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

**НЕ ТРАПІЎ**

Ідзе адзін падарожнік праз вёску ды й пытае сустрэчнага:

— А скажыце, чалавеча добры, як мне тут праз рэчку перабрацца?

А той яму:

— Я вам зусім не добры чалавек, а староста тутэйшы.



MADE IN ZADRYPANKA

**З „Весніка Задрыпоніі"**

**УВАГА, СТАРТ!**

Задрыпанская швейная фабрыка наладзіла выпуск маек для бегуноў з мастацкай вышыўкай „Не ўпэўніўся — не абганяй".

**ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ**

Што можа быць больш навіннае за першы грэх?



## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Сцяпана Казьмерука з Рушчанаў змяшчаем песню*

# Я ВЕРЮ, ДРУЗЬЯ...

**Слова В. Войновича**
**Музыка О. Фельцмана**

Заправлены в планшеты
Космические карты,
И штурман уточняет
В последний раз маршрут.
Давайте-ка, ребята,
Закурим перед стартом,
У нас еще в запасе
Четырнадцать минут.

Припев:
Я верю, друзья, караваны ракет
Помчат нас вперед от звезды до звезды.
На пыльных тропинках далёких планет
Останутся наши следы.

Когда-нибудь с годами,
Припомним мы с друзьями,
Как по дорогам звездным
Вели мы первый путь.
Как первыми сумели
Достичь заветной цели
И на родную землю
Со стороны взглянуть.

Припев.

Давно нас ожидают
Далёкие планеты,
Холодные планеты,
Безмолвные поля.
Но ни одна планета
Не ждет нас так, как эта,
Планета дорогая
По имени Земля.

Припев:
Я верю, друзья, караваны ракет
Помчат нас вперед од звезды до звезды.
На пыльных тропинках далеких планет
Останутся наши следы.

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

**ЗАЙЗДРАСЦЬ**

**Паводле народнага**

*Ох, мудрая, паблажлівая старасць!*
*— На што ў жыцці ты быў багаты, дзед?*
*Стары смяецца:*
*— А найбольш — на зайздрасць,*
*Усё жыццё зайздросціў мне сусед.*

*Жаніўся я, узяў жоначку на ўдачу,*
*Такой не знойдзеш, хоць аб'едзеш свет*
*Ды раптам захварэла...*
*Днямі плачу...*
*А мне зайздросціць з-за сынοў сусед.*

*Сыны і праўда — волаты, асілкі,*
*А выраслі — і паляцелі ў свет!*
*Дамоў не едуць, шлюць адно пасылкі...*
*А ён і ў сне зайздросціць мне, сусед!*

*Зімой было...*
*На роўным — паслізнуўся.*
*Перакруціўся, людцы, белы свет.*
*Кульгаю, бедалага, крукам гнуся, —*
*Чаму ж цяпер зайздросціць мне, сусед?*

*Нага нагой, ды галава — на месцы!*
*Ды сіла во! Хоць я ужо і дзед.*
*А пражыву гадоў не сто дык дзвесце,*
*Калі зайздросціць будзе мне сусед!*

**Валянціна Коўтун**



*— Навошта ты вучыш яго хадзіць, хіба забыла, што мы купілі аўтамашыну?*

## МОЦНЫ СТЫМУЛ

— Якім чынам вы знайшлі прынцыпова новы пункт гледжання на гэту з'яву? — здзіўляецца прафесар. — Я ж не ведаю слабейшага ад вас на факультэце.

— Чаго ад страху не зробіш! — уздыхнуў студэнт.

## ШЫЛА Ў МЯШКУ

Уваходзіць Кастусь у аўтобус з велізарным мяшком.

— З вас пяць злотых, а за рэчы дзесяць, — кажа кандуктар.

Кастусь развязвае мяшок, грыміць:

— Вылазь, Парфен, у мяшку ты больш каштуеш!

# КУРЁЗЫ

## ЗАЙЗДРОСНЫЯ ЦЁЗКІ

Прозвішча Бах — даволі распаўсюджанае і папулярнае сярод немцаў, хаця большасць носьбітаў яго і не з'яўляецца нават самымі далёкімі родзічамі геніяльнага кампазітара, які памёр каля 229 гадоў таму назад.

Але адзін швейцарскі немец у свой час ганарыўся прозвішчам і лічыў, што ўжо само па сабе яно дазваляе яму адчуваць нешта агульнае са сваім вялікім цёзкам па прозвішчу. Каб неяк выкарыстаць шчаслівае супадзенне, ён стаў марыць аб тым, што ў іх родзе яшчэ будуць знамянітыя музыканты і, калі ў яго нарадзіўся сын, то даў яму імя Ян Себасцьян і ўладкаваў на навучанне ігры на аргане.

Ды імя імем, а талент талентам. Арганістам новаяўлены Себасцьян не стаў, толькі іграць на акардэоне і змог неяк навучыцца. У пошуках свайго прызвання гэтаму чалавеку давялося змяніць мноства розных прафесій, нават працаваў камердынерам у знакамітай амерыканскай кіназоркі Ліс Тэйлор на працягу 15 гадоў.

Зараз Ян Себасцьян Бах ужо чалавек пенсійнага ўзросту. Як і калісьці яго бацька, на старасці год ён таксама пачаў марыць аб музыкальнай вядомасці і зноў вярнуўся да заняткаў на акардэоне. Толькі дзейнічаць пачаў больш рашуча. Ён не губляецца, калі, знаёмячыся, называе сябе і нехта ў вочы яму смяецца: „Калі вы — Ян Себасцьян Бах, дык я — кітайскі імператар". Ян Себасцьян змікіціў, як выкарыстаць свае знакамітае імя. Ён пра-

(Заканчэнне на стар. 6)




**Не ўпускайце сваю годнасць на таварышаў па службе.**